*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 10(118) ◈ 10 сакавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*9 САКАВІКА 1993 г.*
*«ХРОНІКА БНР»*

У гэты дзень 9 сакавіка 1918 г. Выканкам Усебеларускага з'езда прыняў Другую Установчую Грамату, паводле якой абвяшчалася ўтварэнне

*БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ*

БНР дэкларавала свабоду друку, слова, сходаў, 8-гадзінны рабочы дзень.

*РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЎ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РУМЫНІІ Т. МЕЛЕШКАНУ.* Адбылося парафіраванне праекта дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Румыніяй, які будзе падпісаны падчас візіту С. Шушкевіча ў Бухарэст.

◆

*У САЎМІНЕ АДБЫЎСЯ УРАЧЫСТЫ ПРЫЁМ* з нагоды Міжнароднага жаночага дня. Са святам жанчын павіншавала намеснік прэм'ер-міністра М. Дзямчук.

◆

*4 САКАВІКА БЕЛАРУСКАЯ МІЛІЦЫЯ УПЕРШЫНЮ АДЗНАЧЫЛА СВАЁ ПРАФЕСІЙНАЕ СВЯТА.*

◆

*У ГАРОДНІ АДБЫЛАСЯ УСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ* гарадской філіі рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў. Старшынёй філіі абрана дэпутат гарсавета Т. Маліноўская.

◆

*У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ РБ* зарэгістраваны Беларускі фонд Адама Міцкевіча. Штаб-кватэра фонду знаходзіцца ў Навагрудку. Старшынёй праўлення абраны паэт Алег Лойка.

◆

У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ПАРКУ «БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА» адбылася нарада дэлегацый пагранічных войск Рэспублікі Беларусь і пагранічнай варты Рэспублікі Польшча.

◆

*НА ПАЧАТКУ 1994 ГОДА ПЕРШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПАШПАРТЫ АТРЫМАЮЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ РБ, І Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ МЕНЧУКІ.*

◆

*УПРАВА БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ЗЛУЧНАСЦІ вырашыла пералічыць 10 тысяч рублёў на рахунак, сродкі з якога пойдуць на фінансаванне святкавання 75-ых угодкаў БНР.*

◆

У МАГІЛЕЎСКІМ ГАРАДСКІМ ДОМЕ КУЛЬТУРЫ распачала працу «Беларуская гасцёўня». Яе заснавалі магілёўская філія беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, гарадская арганізацыя БНФ, маладзёжная суполка «Машэка» і гаспадары Дома культуры.

---

*Першая айчынная фірма гуказапісу «Белатон-рэкардс» дала першую прадукцыю — музычны альбом групы «Макс». Праўда, беларускага ў альбоме амаль нічога.*

---

*У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

## КАБ ІНЖЫНЕРЫ РАЗМАЎЛЯЛІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Як стала вядома ад прарэктара Беларускай політэхнічнай акадэміі сп. М. Балыкіна, у гэтай старэйшай вышэйшай навучальнай установе рэспублікі (былы Беларускі політэхнічны інстытут) апошнім часам робіцца шмат, каб далучыць будучых інжынераў да роднай культуры і мовы. Зрэшты, мяркуйце самі.

Сябры Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры дэканаце павышэння кваліфікацыі яшчэ пазалетась стварылі пастаянна дзеючыя курсы беларускай мовы для выкладчыкаў і супрацоўнікаў. У структурных адзінках акадэміі — на кафедрах, у дэканатах і адміністрацыйных службах

*(Заканчэнне на с. 2).*

---

## Родная мова — стрыжань нацыянальнай адукацыі

*Такая думка прагучала ў многіх выступленнях на канферэнцыі «Праблемы навучання і выхавання ў беларускамоўных класах і школах», якая нядаўна праводзілася ўпраўленнем адукацыі Менскага гарвыканкама сумесна з бацькоўскім камітэтам беларускамоўных школ і класаў нашай сталіцы.*

Большасць удзельнікаў канферэнцыі — настаўнікі-прадметнікі пятых-сёмых класаў менскіх школ розных тыпаў (агульнаадукацыйныя сярэднія, ліцэі, гімназіі, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, школы-інтэрнаты).

Адкрываючы пленарнае пасяджэнне, начальнік аддзела ўпраўлення адукацыі А. Фралова падкрэсліла, што мэта агульнагарадской сустрэчы беларускамоўных настаўнікаў, бацькоў вучняў беларускіх школ і класаў — абагульніць назапашаны вопыт, абмеркаваць перспектывы развіцця нацыянальнай школы і, урэшце, дапамагчы адзін аднаму.

Слова бярэ В. Паўсцюк —

**(Заканчэнне на с. 3).**

---

*На Украіне па новай праграме навучання рускай мове будзе нададзены статус замежнай. Замест рускай літаратуры ўводзіцца курс сусветнай літаратуры. Прыклад варты пераймання.*

---





Толькі пяты год існуе Эйгердаўская сярэдняя школа Іўеўскага раёна. Дырэктар — Пётр Антонавіч Юргелевіч, нядаўні выпускнік Менскага інстытута замежных моў. Ён вучыць размаўляць дзетак па-нямецку, але не забываецца на роднае слова.

Атмасфера ў школе спрыяе адраджэнню мовы і беларускай культуры: ёсць цікавы этнаграфічны музей, дзе сабрана шмат рэчаў народнага побыту. Тут часта праходзяць урокі роднай літаратуры.

**На здымках:** урок нямецкай мовы вядзе П. А. Юргелевіч; у школьным этнаграфічным музеі.

Фота Міхася ХАМЦА.

*У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

# КАБ ІНЖЫНЕРЫ РАЗМАЎЛЯЛІ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Заканчэнне. Пачатак на с. 1.)

— на дзяржаўную мову пераведзены пішучыя машынкі, завяршаецца беларускамоўнае афармленне аўдыторных, службовых, лабараторных, вытворчых памяшканняў і студэнцкіх інтэрнатаў. Чакаецца выпуск новага ўнутрыакадэмічнага тэлефоннага даведніка на роднай мове.

Актывісты ТБМ акадэміі ў бягучым навучальным годзе сталі чытаць лекцыі і праводзіць семінарскія (практычныя) заняткі на дзяржаўнай мове Рэспублікі Беларусь. Гэта дацэнт А. В. Шастаковіч (кафедра «Гісторыя культуры»), прафесар А. Ф. Хацкевіч, дацэнты У. Ф. Ермалаеў, У. М. Сівагракаў, Д. М. Хромчанка, С. Ю. Ліўшыц (кафедра «Гісторыя Айчыны»), дацэнт А. І. Лойка, старшы выкладчык М. В. Анцыповіч (кафедра філасофіі). Знамянальна, што родная мова гучыць у студэнцкіх аўдыторыях не толькі пры вывучэнні прадметаў гуманітарнага цыкла. Па-беларуску выкладаюць дацэнт М. І. Беразоўскі (кафедра «Аўтаматыка і аўтаматызацыя прамысловых працэсаў»), дацэнт А. Г. Бураўкін (кафедра інжынернай графікі), дацэнт В. Я. Траццякевіч, старшы выкладчык Т. А. Сухая (кафедра вышэйшай матэматыкі), іншыя кваліфікаваныя спецыялісты дакладных, як кажуць, навук.

Шмат увагі надаецца ў акадэміі метадычнай рабоце са студэнтамі. І ў гэтай справе таксама паварот да беларускасці відавочны. Так, на ратапрынце ўжо выпушчаны першыя беларускамоўныя дапаможнікі «Здабыча і перапрацоўка будаўнічых горных парод. Метадычныя ўказанні да выканання курсавога праекта» (аўтар М. І. Беразоўскі) і «Метадычныя парады для выканання лабараторнай работы па курсу адкрытых горных работ» (аўтары Б. А. Багатаў, М. І. Беразоўскі). Да друку па-беларуску падрыхтавана яшчэ чатыры распрацоўкі агульным аб'ёмам 8 аўтарскіх аркушаў.

Завершана работа над рукапісамі фундаментальных і грунтоўных манаграфічных даследаванняў, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для ВНУ, якія таксама плануецца выпусціць на беларускай мове. Гэта «Тэорыя іманавернасцей», «Элементы лінейнай алгебры і аналітычнай геаметрыі», «Руска-беларускі слоўнік па фізіцы» на 25 тысяч слоў, «Руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнік па матэматыцы», «Беларускі тлумачальны слоўнік па геадэзіі», «Прыкладная матэматыка». Некаторыя з пералічаных прац ужо здадзены ў выдавецтвы.

Як бачым, не за гарамі той дзень, калі родная мова стане рабочай мовай беларускага інжынера.

**М. В.**

## Валожын

**У 1992 годзе аддзеламі райвыканкама, школамі і дашкольнымі дзіцячымі ўстановамі, гаспадарчымі арганізацыямі праводзілася пэўная работа па далейшым практычным ужыванні беларускай мовы ў жыцці. У гэтым навучальным годзе ўсе першыя класы ў раёне беларускамоўныя. У Івянецкай, Пяршайскай, Ракаўскай школах вядзецца паглыбленае вывучэнне беларускай мовы і літаратуры. Створаны і паспяхова працуюць вучнёўскія этнаграфічныя калектывы пры Валожынскай школе-інтэрнаце, Адамаўскай НСШ, Ракаўскай СШ. Арганізацыйныя мерапрыемствы, нарады, сходы па лініі райана і аддзела культуры праводзяцца на беларускай мове. Афіцыйныя паперы і дакументы ў райана, школах, дамах культуры, клубах, бібліятэках вядуцца ў асноўным на роднай мове. Афармленне ўстаноў культуры, школ вядзецца ў стылі нацыянальных традыцый беларускага народа. Кожны год праводзіцца літаратурнае свята на радзіме В. Дуніна-Марцінкевіча — у Люцінцы. ДРБУ перапісаны і зменены ўказальнікі на дарогах рэспубліканскага значэння. Раённы вузел сувязі падае ўсю інфармацыю аб паслугах насельніцтву на роднай мове. Марудна пераводзіцца на беларускую мову справаводства ў раёне, асабліва ў калгасах, саўгасах, сельскіх Саветах. Марудна пераключаюцца на беларускую мову праваахоўныя органы: суд, пракуратура, міліцыя.**

*Старшыня раённай рады ТБМ А. А. ГЕДРОЙЦЬ.*

## Навагрудак

**Раённае ТБМ было створана ў лістападзе 1989 года. Старшыня — Уладзімір Бармута.**

**Наладжаны выпуск «Навагрудскага кур'ера». Выпушчана 5 нумароў. У 15 установах раёна і 12 школах створаны першасныя суполкі. Усе 39 школ, а таксама 21 дашкольная ўстанова з'яўляюцца беларускамоўнымі з ахопам 2749 вучняў і 868 выхаванцаў дзіцячых садкоў. На 1993 год на газету «Наша слова» ў раёне падпісалася 87 чалавек. Аднак работа, якая праводзіцца, далёка не адпавядае патрэбе часу і не забяспечвае ў поўным аб'ёме выкананне Закона аб мовах.**

*Старшыня Савета А. В. ГУРОК.*

## Глыбокае

**1 жніўня 1991 года ў раёне створана ТБМ. Яго ўзначальвае паэт Алесь Жыгуноў.**

**У арганізацыі больш за 100 чалавек. У лістападзе 1993 года мяркуецца на пасяджэнні выканкама разгледзець пытанне «Аб рабоце аддзелаў, упраўленняў райвыканкама, гарадскога пасялковага, сельскіх Саветаў народных дэпутатаў па выкананні Закона аб мовах».**

*Нам. старшыні выканкама Г. Д. САУЛІЧ.*

# Усё пачынаецца са школы

Адраджэнне беларускай нацыянальнай школы — гэта перш за ўсё вяртанне роднай мовы і народнай педагогікі, вяртанне традыцый супольнага жыцця, якія заўсёды былі істотным фактарам выхавання нацыянальнай самасвядомасці. Наша школа — адна з соцень так званых малакамплектных сельскіх школ Беларусі. У нас 12 дашкольнікаў, 26 дзяцей, якія ходзяць у школу з вёскі, а 32 — выхаванцы дзіцячага дома.

Сумесна з мясцовым кіраўніцтвам распрацавана праграма «Спадчына», у рамках якой школа павінна стаць ачагом адраджэння вёскі, нацыянальнай культуры. Дзейнасць школы апошнім часам узбагацілася новымі формамі і метадамі навучальна-выхаваўчага працэсу. Сёння ўжо можна гаварыць аб тым, што склалася пэўная сістэма, якая ахоплівае ўрочную і пазаўрочную дзейнасць. Так, для вучняў пятых класаў уведзены факультатыўны курс «Спадчына роднага краю». Ён складаецца з шасці раздзелаў, прысвечаных старажытнай Беларусі, Бярэзінскаму раёну, нашай роднай вёсцы Дулебы.

Напачатку правядзенне факультатыўных заняткаў было справай у асноўным педагогаў. Сёння ж у гэтым удзельнічаюць і жыхары вёскі. Напрыклад, гурткі пляцення вядуць народныя ўмельцы з Дулебаў С. С. і М. Я. Цэдрыкі.

Гонарам школы стаў адкрыты восем гадоў назад краязнаўчы музей, прысвечаны родным Дулебам. Пошук экспанатаў вялі і школа і вёска. Хадзілі па хатах, гутарылі з вяскоўцамі-старажыламі. У музеі сабраны народныя песні, матэрыялы аб народным прыкладным мастацтве, дулебскіх самародках, песнярах роднага краю. Ёсць экспанаты, якім сёння больш за стагоддзе. Калі школа стала на шлях абнаўлення і адраджэння нацыянальнай культуры, да нас пайшлі, і актыўна, жыхары вёскі, бацькі — ды не толькі ў дні святаў. Пачаў складвацца больш даверлівы, добразычлівы тып узаемаадносін паміж людзьмі. Асабліва характэрна гэта для старых людзей, якія заўсёды знаходзяць у нас увагу і падтрымку. Так, з часам у нашай школе сталі праводзіцца вечары сустрэч інвалідаў, што жывуць у Дулебах.

Ужо два гады, як у школе змянілася структура выхавання. Наш вопыт паказаў, што класнае кіраўніцтва ў малакамплектнай школе з малой напаўняльнасцю класаў з'яўляецца неэфектыўным. Таму ўведзена пасада арганізатара дзіцячага калектыву.

Лічу, што кожная школа павінна сёння па-сапраўднаму працаваць на адраджэнне беларускай культуры і роднай мовы.

**Мікола ГРУДЗІНСКІ,**
**старшыня школьнай суполкі ТБМ.**

в. Дулебы Бярэзінскага раёна.

# ДВУХМОЎЕ — ГЭТА ТОРБА ДУХОЎНАГА ЖАБРАЦТВА

Нас, сяброў Таварыства беларускай культуры ў г. Маскве, вельмі занепакоілі намеры асімілятараў у Беларусі надаць расійскай мове статус дзяржаўнай. Недарэчнасць падобнага кроку з гледзішча суверэннай краіны відавочная і не патрабуе доказаў.

«Двуязычный» беларус, як давяла шматгадовая практыка, гэта фактычна чалавек абыякавы, нярэдка варожы да сваёй мацярынскай мовы, беларускае культуры, беларускае кнігі. Задоўжанае ўтрыманства шматмільённае Беларусі на целе расійскае мовы нядужа яе абагаціла, затое страты ўсяго беларускага неаблічальныя. Гляньма на беларускае замежжа, хоць бы самае бліжэйшае. Дзе, да прыкладу, у Расіі (а там жа пад два мільёны нашых суродзічаў) беларускія школы, кнігі, перыёдыка, урэшце беларуская літургія ў божым храме, нават у месцах кампактнага пражывання беларусаў? Няма, не чутна! Лёсам нашым было ці не скрозь пазбыццё свае беларускасці, нават свайго прыроджанага цекання, дзекання, свае натуральнае адметнасці. Як жа магло быць інačай, калі гэтая адметнасць, наш «беларускі акцэнт» зацята, па-цывілізатарску вытраўліваўся на нашай спрадвечнай Бацькаўшчыне? Нам вякамі чаўплі ў галовы, што правільна, без акцэнту размаўляць па-руску — гэта добра, неабходна, а вось беларускае маўленне — кепска, некультурна.

Як тут не ўспомніць Купалу:

> Аграбленыя з гонару й кашулі,
> З свайго прыпыну выгнаныя вон,
> Мы дзякуем, што торбы апранулі
> На нас ды з нашых нітак-валакон.

Востры, балючы папрок, а ўсё ж папраўчы праўдзівы, справядлівы! Толькі-толькі пачынаем мы вяртацца да свайго беларускага прыпыну, спрабуем зрынуць з сябе збрыдзелую торбу духоўнага жабрацтва, а нам зноўку хочуць начапіць такую ж другую, «двуязычно» пераліцаваную!

Ці не досыць глумлення над беларускай душой? Можа, досыць і дзякаваць за сваё аграбленне і паніжэнне? Дадзякаваліся да кропкі — далей няма куды.

Цяпер, на хвалі Адраджэння і на чужыне прачнаецца беларус, пагарнуўся да родных каранёў. Ён адчуў, што радзіма яго Беларусь можа стаць Беларусяй — краінай з уласным абліччам, чалавечым, нацыянальным гонарам.

Узаконенае «двуязычие» — крыж на беларускім Адраджэнні, «трыумфальнае шэсце» і канчатковая перамога асімілятарства на Беларусі. А ў сачыстым слове родным — яшчэ адна шэрая калька, «двумоўе», ад безлічы якіх яму і так доўга-доўга яшчэ адскрабацца.

Браты і сёстры, дзядзькі і цёткі! Беларусы! Асадзім далакопаў роднае Беларушчыны!

Жыцьме Беларусь!

Аляксей КАЎКА, Антось Сабалеўскі, Алесь Курыс, Алесь Глод, Ганна Рыжкоўская, Ігар Паўлоўскі, Генадзь Лех, Лявон Цагельнікаў, Мікола Каралёў, Уладзімір Акуліч-Казарын, Алесь Амялюк, Ніна Каляда, Раіса Загрышава, Алесь Казлоў, Анатоль Шпакаў, Алесь Драянкоў, Мікола Касьянчык, Алесь Каляда, Віктар Качаргін.

*Янка КУПАЛА*

## Перад будучыняй

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэсьнем мы, душою ўпаўшы, зьвяўшы,
Каб выйсьці ў сьвет, як нейкі здольны род...

Сягоньня мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад маскай асьляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Ня ведаем, ня можам, хоць і час.

Зацікнуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сьляпыя, ня згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць ня ў моцы йшчэ!
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтосьць, а штосьць і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем, будучні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных лехаў, меж.

А хтосьць далёкі ці хтосьць можа блізкі
Засеў за наш бясёдны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас зьела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць сьмела
Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — «Паўстань праклятцем»... Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разьбежнасць...
Без толку крыльлем лопаем, як цьмы.

О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны —
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

Зь кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у сьвет — скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сьведкі,
Што мы — ня мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх ня знаўшы,
Учора, сяньня лазім між канаў...
Няўжо бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом праклятага заламаў?

Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч буралломны: вызваленьне з пут?!

Менск. 24.I.1922 г.

**АЛЕ!**

***Прыблізна каля дзевятнаццаці гадзін 13 студзеня давялося пачуць па радыё перадачу, якую вёў каментатар Юрый Ермалюк. Некалькі тэлефанаванняў грамадзянам, маўляў, як вы глядзіце на другую дзяржаўную мову ў рэспубліцы, што думаеце пра моўную сітуацыю?***

# Сум па леташняму снегу.

Ігар ЧАРНЯЎСКІ,
старшыня пастаяннай камісіі Менгарсавета па культуры, галоснасці і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны.

У адказах даўно знаёмае: пра нейкія нацыяналістычныя сілы, пра шчырую ўдзячнасць «вялікай Расіі» за вызваленне ад фашызму, пра грошы, якія лепш накіроўваць на лякарствы, чым на беларускія падручнікі. Вось табе і маеш! З «нацыяналізмам» ды «ўдзячнасцю» зразумела. Так нас выхоўвалі ў Савецкім Саюзе: па-беларуску — нацыяналізм (аўтар гэта добра спазнаў на ўласным вопыце яшчэ ў студэнцкія гады), што з Расіі (чытай — з ЦК КПССаўскіх кабінетаў), тое было пазначана неад'емнай пячаткай «велічы». Нідзе ж не пісалася, што за сённяшнюю сваю свабоду Беларусь заплаціла мільёнамі жыццяў сваіх сыноў і дачок. А паняцце «нацыяналізм» на нямераных абшарах Саюза, як і многае іншае, мела свой адметны сэнс, не падобны ні на што ў свеце. Але найбольш здзіўляе, што нехта яшчэ сёння думае, быццам выпуск усяго беларускага для Беларусі каштуе большыя грошы, чым рускага.

Што і казаць: спадчына нам дасталася — нікому не пажадаеш. Але ўсё гэта можна зразумець. Складаны час. А тут каментатар з нейкай моваю чэпіцца. Ці не ўсе семдзесят гадоў народу тлумілі галовы пра безнацыянальнае грамадства, як пра ўмову хуткага дасягнення «светлай будучыні»? Галоўны прараб «адлігі» Мікіта Хрушчоў падчас візіту ў Беларусь зрабіў выснову, што беларусы туды ўвойдуць першымі, бо дасягнулі найбольшых поспехаў на шляху «зліцця нацый і народаў». Гэта начальнікам уласнае гадоўлі надало, відаць, яшчэ большага імпэту. Гэтулькі сродкаў траціласся на стварэнне камуністычнага міфа пра «новую супольнасць людзей — савецкі народ», гэтулькі напісана і нагаворана, і на табе — прыехалі. Камуністычная перспектыва, як той ранішні туман, развеялася, а савецкая міфалогія аказалася з роду псеўданавук, за якую да таго ж давялося заплаціць страшную цану. Тлумілі людзям галовы адным, а зараз паспрабуй растлумач-давядзі чалавеку іншае. На тое трэба і час, і сілы, і ўмовы. Але ж, спадзяюся, перажываем. Майсей вунь колькі часу вадзіў па пустыні свой народ, пакуль не пазбыліся людзі рабскае псіхалогіі, якая не давала ім стаць вольнымі.

Але гэта ўсё размовы побытавага ўзроўню. Трапляюцца ж у сродках масавай інфармацыі «перліны», якія адназначна і не вытлумачыш. Да такіх адносіцца «Открытое письмо Верховному Совету Республики Беларусь «Семь раз отмерьте...» за подпісам вучоных Расійскай акадэміі навук В. Капцюга, А. Трафімука, В. Пармона. Закінутыя «не по своей воле» ў няблізкі свет, навукоўцы раптам прыгадалі пра «белорусскую кровь» ва ўласных жылах, што, відаць, і падштурхнула іх на смелае слова пра сітуацыю на моўнай ніве ў Беларусі. Грамадзяне ж Рэспублікі Беларусь, на іх думку, «по известным причинам предпочитают молчать». Нечаканая выснова, калі выступленні адпаведнага характару з трыбуны таго ж Вярхоўнага Савета Беларусі лічыць «маўчаннем».

Увогуле, выказванні накшталт «известных причин» моцна нагадваюць жаданне згуляць у абарону правоў «русскоязычного населения». Толькі трэба было б ведаць расійскім вучоным беларускага паходжання: як ні стараюцца айчынныя ці замежныя прарокі, ні віленскай, ні тбіліскай, не кажучы ўжо пра малдаўскую, карты на Беларусі разыграць не ўдасца.

*(Працяг на 4-й с.).*

# *Патрабуецца новы і мудры гісторык*

***Шчырым жаданнем напісаць новую гісторыю беларускай літаратуры запаліліся выкладчыкі Менскага педінстытута. Дзеля гэтага на пачатку лютага адбыўся рэспубліканскі навукова-метадычны семінар, на які сабраліся літаратуразнаўцы, выкладчыкі педвучылішчаў і вышэйшых школ, а таксама спецыялісты акадэмічнага Інстытута літаратуры.***

Увазе навуковага сходу былі прапанаваны імправізаваная анкета і адозва, распачатая такімі словамі: «Гавораць, якія падручнікі ў школе, такі і народ, а сукупнасць падручнікаў здольная змяніць краіну. У нас адпаведных новаму часу падручнікаў няма, асабліва па літаратуры і гісторыі. Ці ж такое можна цярпець?»

Як на маю думку, дык цярпець абсалютна няможна. Таму, што іліжывая камуністычная адукаваншчына няспынна разбурае самыя каштоўныя, самыя дабраякасныя падмуркі як персанальнай, так і нацыянальнай свядомасці, пакідае пасля сябе духоўна спустошаны, дэмаралізаваны натоўп. Дык ці здольныя напісаць праўдзівыя падручнікі тыя, хто ад душы напрацаваў на таталітарную ўладу, спавіўшы хлуснёй не адно пакаленне безабаронных школьнікаў і студэнтаў?

У чым спецыфіка літаратурнага працэсу ў Беларусі, які прынцып уключэння літаратурных твораў у нашу гісторыю трэба абраць? Ці гэта будзе моўны крытэрый, ці этнічна-тэрытарыяльнае паходжанне аўтараў — гэтыя пытанні спрабавалі актуалізаваць нашы шаноўныя спецыялісты. З вялікай цікавасцю было ўспрынята выступленне прафесара Уладзіміра Калесніка, выдатнага эрудыта і дасціпнага аналітыка.

Падставы для палемікі вынікалі са зместу самой анкеты, якая прапанавала некаторыя даволі адыёзныя імёны, так бы мовіць, на грані шоку. Недаўмецца, чым кіраваліся апытальнікі, прапануючы для аналізу або напісання літаратурнага партрэта творы польскага палітычнага і царкоўнага дзеяча езуіта Пятра Скаргі, або дашчэнту зрусіфікаванага беларускага шляхціца і пецярбургскага раманіста Фадзея Булгарына. Трэба меркаваць, што такім чынам яны намагаліся стымуляваць або нават справакаваць вострую даследчыцкую рэакцыю. А тое, што далікатныя навукоўцы адзначылі як «парадоксы і зігзагі літаратурнага працэсу», мне ўяўляецца ўсё ж бясспленным распалавіньваннем нацыянальнай свядомасці. Аналіз гэтай гісторыі наспеў даўно. Асцерагаюся аднак, каб не ўзнікла чарговая спакуса самападману або недаравальнай наіўнасці, жадання выглядаць не горш за іншых або выдаць за духоўнае багацце апалае лісце ды падгнілыя карэнні. «Ці страціць гісторыя літаратуры сваё нацыянальнае аблічча пры разглядзе іх? А можа, наадварот, у іх творчасці выявіцца нацыянальны менталітэт, можа, мы забяром тое, што належыць нам?» — спакушаюць аўтары анкеты.

Які плён з гэтага будзем мець, пакажуць толькі наступныя даследаванні. Па-першае, якой меркай станем мераць? Па-другое, цікава было б прасачыць, як адлюстраваліся беларусы ў тэкстах палякаў і расійцаў?

Выкладчыцкія захады на сцягванні на семінары, канферэнцыі нацыянальна-бадзёрых навуковых сіл трэба ўсяляк вітаць і заахвочваць, надаючы гэтаму нязмушаны, жывы, натуральны характар. У пэўнай ступені такое адчувалася і ў педінстытуце. Ды ўсё яшчэ не пераадоленая правінцыяльная закамплексаванасць выкладчыцкага асяродку давалася ў знакі. Можа, таму бракавала актыўнасці, жывога дыялогу, канцэптуальных паглядаў на гісторыю. Мне асабіста вельмі шкада, што нашы даследчыкі выказваюць недаравальную безуважнасць і недасведчанасць у асвятленні літаратурных з'яў XVI стагоддзя. Хаця вядома, што якраз тады ў Беларусі адбываліся надзвычай інтэнсіўныя працэсы грамадска-палітычнага асэнсавання свайго месца ў свеце, жыватворна віравала незадушаная яшчэ агрэсіўнымі суседзямі філасофская і літаратурная думка. Шкада, што пра гэта не прыгадалі менавіта сёлета ў 440-ыя ўгодкі нацыянальнай Рэфармацыі, якая прынесла ў Беларусь незвычайна высокі ўзровень кнігадрукавання. З 1525 па 1600 г. было выдадзена больш за 300 назваў кніг, з якіх палова была на лацінскай мове. Лацінай пісаў такі выдатны пісьменнік і палеміст, як Андрэй Валан, а таксама шмат іншых аўтараў, у творах якіх выразна адбілася новае бачанне свету, былі сфармуляваны выратавальныя для нашай Бацькаўшчыны новыя маральна-этычныя і палітычныя ідэі, якія сталі духоўным грунтам для новай Еўропы, аднак, на жаль, былі ў нас груба затаптаныя.

Што мы ведаем пра гэта? Вельмі мала, каб не сказаць, нічога. Прычынаю з'яўляецца і тое, што дзяржаўная адукацыя не рыхтуе патрэбнай колькасці перакладчыкаў з класічных і замежных моў на беларускую. У выніку літаратуразнаўцам няма чаго даследаваць. А гэта ж наша літаратурная спадчына ляжыць у кнігасховішчах, вядомая толькі вузкаму колу даследчыкаў! У беларускіх друкарнях Лоска, Любчы, Нясвіжа, Вільні выдаваліся на нямецкай, польскай, італьянскай, лацінскай мовах выдатныя белетрыстычныя, тэалагічныя, навуковыя творы Сымона і Беняша Будных, Яна Казаковіча, Андрэя Рымшы, С. Судровіуса, Яна Радвана, Яна Пратасовіча і многіх іншых. Яны даўно чакаюць сваіх даследчыкаў.

Да ліку сенсацыйных трэба аднесці паведамленне на семінары пра вершы на беларускай мове Адама Міцкевіча, знойдзеныя ў бібліятэцы Ватыкана. Так што наперадзе ў айчынных літаратуразнаўцаў не толькі новыя цікавыя доследы, але і адказная місія.

**Л. ЛІПЕНЬ.**

# Родная мова — стрыжань нацыянальнай адукацыі

***(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).***

**намеснік старшыні бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў сталіцы. Прамоўца засяродзіў увагу на прыкрых фактах, аб якіх не любяць гаварыць у афіцыйных справаздачах. Ён адзначыў, што поспехі беларусізацыі сталічных школ, бясспрэчна, ёсць. Але ж нельга закрываць вочы на тое, што тыя 84 беларускія менскія школы (разам са школамі-інтэрнатамі іх маецца 221) пастаноўкай навучальна-выхаваўчага працэсу яшчэ далёка не адпавядаюць паняццю «нацыянальная школа». Таму, па-першае, што там ад 10 да 50 працэнтаў прадметаў выкладаецца, як і ўчора, па-руску. Гэта, у першую чаргу, датычыць замежных моў, логікі, этыкі, фізічнай культуры, некаторых іншых дысцыплін. Асноўная прычына — востры недахоп беларускамоўных настаўнікаў, якіх нашы ВНУ паранейшаму не выпускаюць. «Мне, напрыклад, — абурыўся В. Паўсцюк, — абсалютна незразумела, як настаўнікі замежных моў, у пераважнай большасці тутэйшыя ўраджэнцы, авалодаўшы ў інстытутах дзвюма-трыма зусім чужымі мовамі, не могуць выкладаць іх на сваёй роднай мове!». Ён заўважыў таксама, што беларускія школы павінны быць нацыянальнымі не толькі паводле іх афіцыйнага статуса, яны абавязаны стаць навучальна-выхаваўчымі ўстановамі, прасякнутымі беларускім нацыянальным духам.**

**Начальнік аддзела ўпраўлення адукацыі А. Фралова запэўніла прысутных, што беларуская мова — адзіная мова нашай нацыянальнай школы, што ў моўным пытанні ў дашкольнай і школьнай адукацыі сёння назад ніхто не паверне. На бліжэйшыя два гады запланавана перавесці пераважную большасць сталічных школ на беларускую мову навучання, пакінуўшы ў кожным кусце школ (па мікрараёнах) па адной рускамоўнай сярэдняй школе. Але не трэба думаць, падкрэсліла прамоўца, што гэты працэс ідзе гладка. Поруч з аб'ектыўнымі цяжкасцямі ён сустракае рэзкае супраціўленне пэўных грамадскіх колаў. Так, напрыклад, мясцовае аб'яднанне «Русь» нядаўна пісьмова абвінаваціла гарадскія органы народнай адукацыі ў празмерным фарсіраванні тэмпаў беларусізацыі школ. Але аб якім фарсіраванні можна сур'ёзна гаварыць, калі зараз у сталіцы — горадзе з амаль двухмільённым насельніцтвам, працуе ўсяго толькі адна (!) 108-ая сярэдняя школа, дзе ўсе без выключэння прадметы з першага па апошні клас выкладаюцца па-беларуску?! Пазіцыя «Русі» не можа не насцярожваць.**

**Начальнік упраўлення Міністэрства адукацыі Г. Пятроўскі прысвяціў выступленне праграмнаму зместу школьнага навучання ў сучасных умовах, бо «нацыянальная школа — гэта найперш нацыянальны змест адукацыі». Далей сп. Пятроўскі зазначыў, што Беларусі ў спадчыну ад былога СССР засталася вельмі слабая педагагічная навука. Нічога тут дзіўнага: увесь змест навучання раней цалкам вызначаўся і распрацоўваўся ў Маскве, і зразумела, што ён мала арыентаваўся на нацыянальныя здабыткі народаў, якія ўваходзілі ў склад гэтай адзінай унітарнай дзяржавы. Начальнік упраўлення паведаміў, што мяняецца змест навучання ў сярэдніх школах рэспублікі. Так, у пачатковай школе ўводзіцца новы інтэграваны курс «Чалавек і свет». Мяняецца месца гісторыі Бацькаўшчыны: згодна з новымі праграмамі беларуская мінуўшчына будзе вывучацца адзіным курсам з пятага па адзінаццаты класы. Амаль усе прадметы эстэтычнага цыкла будуць грунтавацца на дасягненнях беларускай нацыянальнай культуры.**

**Сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны В. Вячорка выказаў перакананне, што найбольш спрыяльная, нават аптымальная моўная сітуацыя любога навучання — аднамоўе. І памыляюцца тыя, хто лічыць, што наша родная мова нібыта не ў поўнай меры прыдатна для вывучэння асобных прадметаў. Практыка Беларускага гуманітарнага ліцэя даказвае, што ўжо сёння можна цудоўна выкладаць па-беларуску ўсе дысцыпліны.**

**На пленарным пасяджэнні выступілі таксама Г. Мікаленка — загадчык кафедры моў гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў і А. Лозка — дырэктар Беларускага цэнтра гульні ў цацкі.**

**Затым удзельнікі канферэнцыі працавалі па секцыях (асобна — настаўнікі гісторыі, матэматыкі, працоўнага навучання, фізічнай культуры, рускай мовы, арганізатары пазакласнай і пазашкольнай работы). Яны дзяліліся перадавымі методыкамі, знаёміліся з вопытам работы ва ўмовах адсутнасці новых падручнікаў.**

**Канферэнцыя прыняла зварот да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі з заклікам падтрымаць працэс станаўлення беларускай школы.**

**Наш карэспандэнт.**

## УРОК СЁМЫ

*Вайскоўцам пра родную мову*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворкі, запомніце іх. Прагаварыце кожную хутка па тры разы.

*—Пчолка ў чоўніку плыла.

*—У ката капыты, у каня кіпцюры?

—Не, у каня капыты, у ката кіпцюры.

2. Прачытайце словы, правільна вымаўляючы выдзеленыя спалучэнні зычных:

| | | |
|---|---|---|
| **см**ех | за**см**яяцца | **зг**інуць |
| **сн**ег | па**сн**едаць | **ск**інуць |
| **зм**ена | ня**зм**енны | па**зг**інаць |
| **дзв**еры | мя**дзв**едзь | па**ск**ідаць |
| **цв**ёрды | ча**цв**ёрты | мен**ск**і |

3. Прачытайце верш Якуба Коласа «Усход сонца», захоўвайце пры гэтым правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе.

Смех адказны, смех шчаслівы
Ходзіць па пагорках.
Час світання — час зычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі.

Шырай, шырай заранiца
Разнімае крылле,
Нібы пожар б'е крыніцай
Там, на небасхіле.

Сноп праменняў пышна ўзняты,
Сее бляск — чырвонцы —
Гэта неба сцеле шаты
На дарогу сонцу.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце словазлучэнні і скажыце, чаму ў адных выпадках прыназоўнік **з** чытаецца мякка (з'), а ў другіх — цвёрда (з)?

Выехаў **з** лесу (з')
ліў **з** вядра (з')
сустрэўся **з** героем (з)
зрабілі **з** дубу (з)

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, растлумачце правілы вымаўлення выдзеленых слоў.

У якім сэнсе Вы можаце ўжыць першую і апошнюю прыказкі? Назавіце такую сітуацыю.

Якія з *голага смешкі*, калі няма адзежкі? Няхай *дзярэцца* ды на новае *бярэцца*. Боты не князь, *абуй ды ў гразь*. Без кажуха *бярэ* скруха. Пашкадуй *адзенне* дома, а яно *цябе ў гасцях*. *Адзенецца*, як пава, але дурная слава. У *ваце* трасецца, а ў кажусе *смяецца*. Хто *любіць выпіць*, а хто — новыя боты. Старая *світа* па-новаму пашыта. Не *ганьбуй* старым ботам, пакуль *новага* не *пашыў*. Старое *адзенне* новае *беражэ*. Хоць і *небагаты*, а не *адзенецца* ў латы. *Хоць дзіравае*, ды сваё. У кажусе *ў лазні* не мыюцца. Усякі *бачыць*, што на мне, ды *не ўсякі* бачыць, што ва мне. З *лапця* туфля не зробіш.

3. Апішыце вусна сваю вопратку.

4. Складзіце дыялог (тэма на выбар).

*Вы купілі новыя боты (туфлі, чаравікі).

*Вы хочаце ў майстэрні заказаць новы касцюм.

*Вам трэба купіць падарунак маці (сятры, жонцы).

*Парайце, што апрануць сяброўцы ў тэатр.

Пры размове карыстайцеся слоўнікам:

**Віды тканіны**
баваўняная
ваўняная
ільняная
сінтэтычная
шаўковая

**Назвы тканіны**
аксаміт (бархат)
бастон
драп
капрон
крэпдэшын
крэп-жаржэт
крэп-жакард
паркаль (ситец)
плюш
сацін
сукно
шавіёт

**Узоры**
у гарошак
у кветкі
у клетку
у кружочкі
у паскі

**Дэталі адзення**
брыжы (оборка)
гестка (кокетка)
зборкі
каўнер (воротник)
кішэнь (карман)
манжэта
складка
фальбона (оборка на подоле)
гаплік (крючок)
гузік (пуговица)
маланка (молния)
спражка (пряжка)

## Тлумачэнне новай тэмы: Правапіс змякчальнага мяккага знака

**МЯККІ ЗНАК ПІШАЦЦА:**
пасля зычных **дз, ц, з, с, л, н** для перадачы мяккасці адпаведных гукаў:

1) на канцы слова: *мядзведзь, мазь, шэсць, лось, соль, пень;*

2) у сярэдзіне слова для абазначэння маккасці зычнага перад цвёрдым (бацька, дзядзька, пісьмо), прытым мяккі знак захоўваецца і тады, калі цвёрды зычны пры змене слова становіцца мяккім: *Кузьма — Кузьме*, цьма — *у цьме;*

3) **пасля мяккага л**: *стольш, ільняны;*

4) перад суфіксам **-ск-** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на **-нь**: *студзень — студзеньскі, чэрвень — чэрвеньскі, ліпень — ліпеньскі, жнівень — жнівеньскі, снежань — снежаньскі* і ў слове *восеньскі;*

5) у словах, якія канчаюцца на **-сьці(сь)**: *хтось — хтосьці, якісь — якісьці* і ў слове *ледзьве;*

6) у суфіксах **-еньк- (-эньк-, -аньк-)**: *ціхенькі, даражэнькі, добранькі.*

**МЯККІ ЗНАК НЕ ПІШАЦЦА:**

1) пасля зацвярдзелых зычных: *печ, ноч, вартуеш, трымаеш, трымаешся;*

2) пасля губных **б, п, м, в, ф**, а таксама **д, т**: удод, плот,

Параўнайце варыянты слоў у рускай і беларускай мовах:
дробь — *дроб*
сыпь — *сып*
семь — *сем*
восемь — *восем*

ставь — стаў
верфь — *верф*
сядь — *сядзь*
дать — даць

**ПРАВАПІС РАЗДЗЯЛЯЛЬНАГА МЯККАГА ЗНАКА**

Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля свісцячых **з, с, дз, ц**, а таксама **л, н**: *Лавуазье, лье, парцьеры, Кандрацьеў.*

**Заўвага.** Імёны па бацьку пішуцца без мяккага знака, калі ўтвораны ад імёнаў без канцавога **-ій**: *Васіль — Васілевіч* (Васілій — Васільевіч). *Аркадзь — Аркадзевіч* (Аркадзій Аркадзьевіч).

**ПРАВАПІС АПОСТРАФА**

Апостраф пішацца:

1) пасля прыставак, якія канчаюцца на зычныя перад **е, ё, ю, я** ды націскным **і**: *аб'ём, пад'ехаць, з'ява, аб'інець, раз'езд;*

2) у сярэдзіне слова пасля зычных перад **е, ё, ю, я** ды націскным **і**: *сям'я, двух'ярусны, інтэрв'ю, вераб'і, надвор'е.*

**Заўвага.** Пасля **ў** перад **е, ё, ю, я, і** апостраф не пішацца: *абаўе, салаўіны, шчаўе.*

**ЗАМАЦАВАННЕ**

1. Спішыце сказы, растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

У *сямі* курсантаў добрыя веды па беларускай мове. У нашай *сям'і* пяць чалавек. Я *палю* кветкі, а потым *палью* вадой. Я *салю* агуркі. Я *сальлю* з бака бензін.

2. Запішыце імёны і імёны па бацьку: Васіль (бацька Генадзь, Генадзій), Антон (бацька Юрый), Вадзім (бацька Віталь, Віталій). Алесь (бацька (Аўлас), Мікола (бацька Вінцэнт, Вікенцій), Максім (бацька Франц).

3. Спішыце, настаўце, дзе трэба, раздзяляльны мяккі знак або апостраф.

Бар.ер, Дзям.ян, медал.ён, пап.юся, пад.язджаць, саб.ю, уз.ехаць, надвор.е, сем.янін, з.явіцца, аб.яднанне, павіл.ён, батал.ён.

## УЗБАГАЧЭННЕ СЛОЎНІКАВАГА ЗАПАСУ І РАЗВІЦЦЁ МОВЫ

**Які бывае дом?**
блочный — блочны
деревянный — драўляны
кирпичный — цагляны
панельный — панельны

**Элементы дома**
фундамент — падмурак
сруб — зруб
крыша, кровля — дах
чердак — гара, гарышча (у нежылым будынку — вышкі)
труба — комін
окно — акно
подъезд — пад'езд
дверь — дзверы (толькі ў мн. ліку)
крыльцо — ганак
ступенькі — прыступкі
перила — парэнчы
веранда — веранда
мансарда — паддашак

**Што каля хаты?**
двор — двор, панадворак
большой двор — дзядзінец
погреб — склеп
забор из жердей — плот
—»— из брёвен — паркан, тын
—»— из досок — штыкетнік, шчыкетнік
—»— из кольев — частакол
ограда — агароджа
ворота — вароты
ворота, крытые сверху — брама
калитка — брамка, веснічкі
колодец — студня, калодзеж
гараж — гараж
будка — будка
сарай для скота — хлеў
—»— для сена — пуня
—»— для дров — павець
—»— для повозок — вазоўня

**Заданне.**

1. Падкрэсліце словы, пра якія Вы даведаліся ўпершыню.

2. Да слоў, якія абазначаюць пабудовы ці элементы дома, падбярыце азначэнні; з гэтымі словазлучэннямі складзіце сказы.

Узор: *брама — старая брама. — Будаўнікі аднавілі старую браму.*

### ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

Прачытайце тэкст і перакажыце яго.

## Ваўкалак

На пачатку 80-ых гадоў археолагі раскапалі недалёка ад Добруша гарадзішча. Сярод іншых каштоўных знаходак трапіўся і невялікі гаршчочак, на паверхні якога крапачкамі быў нанесены малюнак — выява ваўка. Калі я ўважліва разгледзеў гэты малюнак, то адразу прыгадаў «ваўчыны» сюжэт, які згадвае старажытнагрэчаскі гісторык Герадот у сваёй «Гісторыі».

Справа ў тым, што раскапанае намі гарадзішча належала носьбітам мілаградскай археалагічнай культуры. А менавіта з гэтай культурай, дакладней, з заходнімі яе помнікамі, якія знаходзяцца на Цэнтральным Палессі, на маю думку, трэба звязваць старажытны народ — неўраў, пра які згадваў Герадот. Між іншым, пра неўраў грэчаскі гісторык паведамляў і наступнае: «Гэтыя людзі, верагодна, пярэваратні. Таму што скіфы і эліны, якія жывуць у Скіфіі, паведамляюць, што раз у год кожны неўр становіцца ваўком, а потым зноў вяртаецца ў ранейшы стан».

Сучасная этнаграфія мае велізарны фонд звестак пра татэмістычныя абрады, у тым ліку, прыкладам, і пра «ваўчыныя скокі» амерыканскіх індзейцаў. Удзельнічаць у гэтых абрадах дазвалялася толькі дарослым мужчынам-воінам. Калі татэмам у неўраў быў таксама воўк, то час іх «пераўтварэння» ў ваўкоў, згодна з Герадотам, быў днямі «ваўчынага» свята, днямі ваўкалакаў, ці ваўкадлакаў, як гучала ранейшая назва. («Длака» значыць поўсць, а «ваўкадлака» — той, хто накрыты ваўчынай поўсцю, футрам», — тлумачыў Шпілеўскі).

Няма падстаў для сумнення ў тым, што на пачатку жалезнага веку воіны з племені неўраў у пэўныя дні, а верагодней, у месячныя ночы, апраналіся ў ваўчыныя шкуры. І над поўсцю можна было разгледзець адзенне, а на лапах — пальцы. Ваўкалак быў тады рэальнай істотай.

Калі аўтар «Слова пра паход Ігаравы» сцвярджаў, што князь Усяслаў Полацкі «поначы ваўком рыскаў», то ён зусім не меў на ўвазе нешта негатыўнае. Наадварот, вядома, што першапачаткова тытул «князь» належаў не феадалам-уладарам, а вайсковым правадырам, правадырам і тых самых воінаў-ваўкалакаў, тых неўраў-пярэваратняў, пра каторых апавядалі Герадоту.

**Сяргей РАСАДЗІН.**



## З народных вытокаў

Мінула ўсяго два гады, як група выкладчыкаў Пастаўскай музычнай школы аб'ядналася ў ансамбль народнай музыкі «Паазер'е». Цяпер яго ведаюць не толькі на Пастаўшчыне, а і ў Віцебску, Магілёве, дзе таксама з поспехам выступалі музыкі. Ансамбль двойчы выязджаў у Польшчу, а нядаўна стаў дыпламантам Міжнароднага конкурсу народнай музыкі, песні і танца ў Дагестане.

Цяпер «Паазер'е» рыхтуе праграму да гастроляў у Кітаі.

**На здымку:** ансамбль народнай музыкі «Паазер'е».

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**




*(Працяг. Пачатак у № 9).*

**Д. ДЖАРВІС: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына.**

Народная медыцына ўлічвае ў сваіх рэкамендацыях нацыянальнасць чалавека, яго канстытуцыю (целасклад) і тып нервовай сістэмы. Чалавек можа мець стройны целасклад, сярэдні (прамежкавы) і можа быць каржакаватым, схільным да паўнаты. Найбольш назіранняў зроблена за людзьмі першага і трэцяга тыпаў.

Стройны чалавек мае лёгкі шкілет, доўгія рукі і ногі, хударлявае цела, далікатную скуру, вузкі твар, пышныя густыя валасы, высокі або невысокі рост. Каржакаваты чалавек, наадварот, мае масіўны шкілет, шырокае тулава і квадратныя плечы, кароткія рукі, ногі і шыю, мажное цела, больш грубую скуру, шырокі і круглы твар, валасы негустыя, якія нярэдка рана пачынаюць выпадаць.

Чалавек стройны, як правіла, хварэе вясною, таму ў гэты час ён павінен асабліва сачыць за сваім здароўем, добра харчавацца, прытрымлівацца рэжыму сну, адпачынку і працы. Чалавек каржакаватага тыпу звычайна хварэе восенню, таму з яе надыходам ён таксама павінен прымаць адпаведныя меры засцярогі. Актыўны ў маладосці, чалавек гэтага тыпу пасля пяцідзесяці гадоў пачынае адчуваць страту сіл. Крывяны ціск у яго зазвычай павышаецца. Чалавек стройнага тыпу можа быць не надта актыўны ў маладосці, затое, дасягнуўшы пажылога веку, набывае энергію і сілу.

Апроч агульнай ацэнкі будовы цела, важна вызначыць памер вушэй. Звычайна людзі з вялікімі вушамі любяць гародніну і аб'ёмную ежу. Тыя, у каго вушы малыя, аддаюць перавагу мясу і канцэнтраванай ежы. Часта па вушах народныя лекары вызначаюць, як павінен чалавек харчавацца ў адпаведнасці са сваімі нацыянальнымі асаблівасцямі.

## УСІМ АРГАНІЗАЦЫЯМ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

**Праз газету «Наша слова» (№ 52 ад 30 снежня 1992 г.) мы паведамілі, што 26—27 сакавіка г.г. адбудзецца III з'езд ТБМ, і прасілі не пазней канца студзеня даслаць неабходныя звесткі аб рабоце арганізацый ТБМ, фінансавую справаздачу, правесці справаздачна-выбарчыя канферэнцыі і выбраць дэлегатаў на з'езд. Але дагэтуль мы не маем адпаведнай інфармацыі з месц. Таму просім у самы бліжэйшы час даслаць згаданыя звесткі, дзе паведаміць аб персанальным складзе абраных дэлегатаў і гасцей, часе іх прыбыцця ў Менск і зацікаўленасці ў гасцініцы.**

**Камандзіровачныя расходы дэлегатаў і гасцей з'езда павінны ўзяць на сябе камандзіруючыя арганізацыі (рады ТБМ, установы народнай адукацыі, культуры і інш.). У выпадку, калі арганізацыя ТБМ не мае сродкаў, камандзіровачныя расходы возьме на сябе Сакратарыят Таварыства.**

**З'езд пачне працаваць а 10-ай гадзіне ў Доме літаратара (Фрунзе, 5). Рэгістрацыя з 9.00. Даведкі па тэл. 33-25-11, 33-13-52.**

*Сакратарыят ТБМ.*

## Крыжаванка-пераклад



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Подросток. 8. Сердцевина. 10. Содержание. 11. Покушение. 12. Направление. 15. Диван. 16. Роща. 17. Фитилёк. 20. Топливо. 21. Цепь. 25. Борозда. 26. Ужас. 27. Амбар. 31. Приложение. 33. Жатва. 34. Громкий смех. 35. Подлинник. 36. Ноябрь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Фундамент. 2. Отблески. 3. Каратель. 4. Осокорь. 5. Честь. 6. Луна в первой четверти. 9. Обувь. 13. Обои. 14. Юношество. 18. Явь. 19. Крыша. 22. Кориандр. 23. Кузнец. 24. Хозяин. 28. Бездельник. 29. Призыв, клич. 30. Внимание. 32. Доказательство.

Склаў Анатоль СІЛІЧ.

г. Бабруйск.

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

**26—27 сакавіка г.г. у Менску (Дом літаратара, Фрунзе, 5) адбудзецца III з'езд ТБМ.**

**Запрашаем Вас прыняць удзел у рабоце з'езда. Пачатак а 10-ай гадзіне раніцы. Рэгістрацыя з 9.00.**

**Іншагародніх просім паведаміць аб магчымасці прыезду ў Менск, а таксама аб зацікаўленасці ў гасцініцы.**

**Камандзіровачныя расходы — за кошт камандзіруючых арганізацый.**

**Тэлефоны для даведак: 33-25-11, 33-13-52.**

**АРГКАМІТЭТ.**

## КЛУБ «СПАДЧЫНА» ЗАПРАШАЕ

**на вечарыну, прысвечаную 80-ым угодкам сцэнічнага жыцця п'есы Янкі Купалы «Паўлінка». Вечарына адбудзецца 14 сакавіка ў тэатры імя Я. Купалы. Пачатак а 19 гадзіне.**

**Уваход для сяброў клуба свабодны.**

## На хвалях БТ

**11 САКАВІКА**
**16.20. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. XI — клас. «Народная трагедыя». В. Быкаў і яго аповесць «Знак бяды».**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.20. Тыдзень беларускага ўрада.**
**21.00. Панарама.**

**12 САКАВІКА**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.30. Гаворым па-беларуску.**
**21.00. Панарама.**
**23.30. НІКа.**

**13 САКАВІКА**
**10.00. Паказвае Брэст. Этнаграфічная праграма. Столінскі раён.**
**19.00. «Чарнобыль: праблемы і вырашэнні».**
**19.20. Рэспубліканскі конкурс аўтарскай песні ў Доме літаратара.**
**21.00. Панарама.**
**23.25. НІКа.**

**14 САКАВІКА.**
**15.40. «Паэзія. Жанчына. Вясна». Вечар у Доме літаратара.**
**16.40. «Беларусьфільм» прадстаўляе: «Адраджэнне». Цыкл дакументальных фільмаў. Алесь Гарун.**
**19.00. Рэспубліканскі конкурс аўтарскай песні ў Доме літаратара.**
**20.00. Панарама.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шаўыркін.

Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8507 паасобнікаў. Зак. 262.

Падпісана ў друк 9.03.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.